# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 9 (68) Жнівень - Верасень 2012 г.

## Віцебскія ўлады забаранілі праводзіць бліц-пікетаваньне праваабаронцу Паўлу Левінаву

**Павал Левінаў хацеў зладзіць пікетаваньне 19 жніўня, каб публічна выказаць сваё меркаваньне наконт дзеяньняў намесьніцы кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску Натальлі Ляпёшкінай, якая, на думку заяўніка, пазбаўляе грамадзян права на мірныя сходы. Пікетаваньне мелася доўжыцца ўсяго адну хвіліну – ад 21:30 да 21:31. Парадокс у тым, што адмовіла Левінаву ў правядзеньні пікету ўсё тая ж усюдыісная Ляпёшкіна.**



Прычына адмовы стандартная для адпісак апошніх гадоў — адсутнасьць дамоваў з арганізацыямі, якія павінны абслугоўваць мерапрыемства. У прыватнасьці — з гарадзкой ЖКГ, "хуткай дапамогай" ды міліцыяй. Нічога новага Ляпёшкіна не прыдумала. Такім чынам, аказваецца, што нават калі мерапрыемства імгненнае, яго ўсё адно трэба ахоўваць, падчышчаць ды лячыць...

І гэта пры тым, што, паводле заяўкі, у якасьці мераў, зьвязаных з абслугоўваньнем мерапрыемства, Левінаў абавязаўся пільна назіраць за станам свайго здароўя і пры неабходнасьці імгненна інфармаваць мэдычныя ўстановы. Не засьмечваць сцэнічную пляцоўку ў парку чыгуначнікаў, на якой мелася адбыцца мерапрыемства. А таксама не парушаць грамадзкі парадак і бясьпеку, не ствараць перашкодаў руху пешаходаў і транспарту.

Заяўнік абяцаў пастаянна прысутнічаць на месцы правядзеньня мерапрыемства, мець бэйджык, не ўсталёўваць намёты, не карыстацца незарэгістраванымі сьцягамі ды вымпеламі, не хаваць свой твар пад маскай ды іншае.

Праваабаронца таксама адзначыў у заяве, што рэалізацыя правоў грамадзян на свабоднае выказваньне сваіх поглядаў і на мірныя сходы — найважнейшае палітычнае права. Зьвярнуў увагу на тое, што пазначанае ў заяве месца (парк адпачынку чыгуначнікаў у Віцебску) прыдатнае для пікетаваньня і не падпадае пад вызначаныя законам абмежаваньні, гэта значыцца законам не забароненае.

Павал Левінаў зьбіраецца абскардзіць рашэньне Ляпёшкінай аб забароне пікету супраць дзеяньняў Ляпёшкінай жа. Абсурд нарастае...

**А ў віцяблян узьнікае лягічнае пытаньне. Ці можна ў Віцебску публічна і законна сказаць хоць тры словы, не заключаючы дамоваў з ЖКГ ды міліцыяй? Ды каб рот не затыкалі ляпёшкіны. На тры словы спатрэбілася б некалькі сэкунд...**

## Камітэтам па правох чалавека ААН прынятая да разгляду скарга Сяргея Каваленкі

Жонка апазыцыянэра Алена Каваленка паведаміла, што **Камітэт па правох чалавека ААН прыняў да разгляду скаргу віцебскага актывіста Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі - БНФ Сяргея Каваленкі** на прысуд, вынесены яму ў траўні 2010 году. Яна нагадала, што 7 студзеня 2010 году Сяргей вывесіў бел-чырвона-белы беларускі сьцяг на навагодняй ёлцы ў Віцебску. За гэты ўчынак Каваленку асудзілі паводле артыкулу 339 Крымінальнага кодэксу (хуліганства) на 3 гады абмежаваньня волі без накіраваньня ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. *"Прынятая ААН скарга датычыць гэтага прысуду. Ёй прысвоены адпаведны нумар, а значыць, яна будзе разгледжаная"*, - распавяла Алена Каваленка.

Паводле яе слоў, гэтую скаргу муж адправіў за два тыдні да свайго паўторнага арышту. *"Ён даслаў яе 5 сьнежня 2011 году, а 19-га - ужо быў арыштаваны паводле абвінавачаньня ва ўхіленьні ад адбыцьця пакараньня ў выглядзе абмежаваньня волі"*, - распавяла Алена. У цяперашні час, паведаміла жонка палітыка, рыхтуецца скарга на другі прысуд у ААН. *"Мы яшчэ не прайшлі ўсе магчымыя нацыянальныя інстанцыі для абскарджаньня па гэтай справе. Цяпер адвакат рыхтуе чарговую скаргу на прысуд Сяргею ў Вярхоўны суд Беларусі"*, - паведаміла Алена Каваленка.

# У Віцебску забаранілі пікеты за байкот выбараў

**Сябры партыі КХП БНФ падалі 7 заявак на правядзеньне пікетаў за байкот ва ўсе гарадзкія адміністрацыі і атрымалі столькі ж адмоваў.** Пікеты забаранілі з прычыны адсутнасьці ў заяўнікаў дамоваў са службамі, якія маюць абслугоўваць мерапрыемствы. Сытуацыю, якая склалася вакол байкатаваньня выбараў у Віцебску, пракамэнтаваў адзін з заяўнікаў пікетаваньняў Ян Дзяржаўцаў *(на фота).*




"Я, перш чым пачаць гэтую кампанію, пацікавіўся ў Ярмошынай: як быць зь пікетамі за байкот, калі нам будуць адмаўляць? Маем мы права ці не? Дык яна адказала мне ў лісьце з ЦВК, што байкатаваць можна будзе на агульных умовах. Гэта значыць — падаваць заявы ўладам, яны разгледзяць і, калі ў цябе ня будзе дамоваў з арганізацыямі па абслугоўваньні пікетаў, дык дазволу не дадуць. Так і атрымліваецца. А мы ж, наіўныя, лічылі, што, калі байкатаваць падчас агітацыйнай кампаніі, будзе палёгка, будзе дзейнічаць спрошчаны парадак правядзеньня такіх пікетаў, як і агітацыйных пікетаў кандыдатаў. Анічога такога няма..." — кажа Ян Дзяржаўцаў.

На ягоны погляд, гэта прамое парушэньне Канстытуцыі: "Пра якія выбары можа весьціся гаворка, калі ідзе гульня ў адны вароты. За выбары бяз выбараў. Калі ласка, ідзіце агітуйце, але, крый божа, не за байкот. Аднак жа, згодна з Канстытуцыяй, можна агітаваць і за байкот. Апынаецца, што — не... Нават Канстытуцыю парушаюць".

Прыхільнікі байкоту зьбіраюцца абскардзіць рашэньні раённых адміністрацыяў Віцебску аб забароне правядзеньня заяўленых пікетаваньняў. "Абскарджваць будзем абавязкова, а далей будзем яшчэ падаваць заявы на правядзеньне пікетаў за байкот выбараў на 22 верасьня. Будзем улёткі распаўсюджваць, будзем тлумачыць людзям, што гэтая ўлада не народная, што яна ўвесь час парушае правы грамадзян. Будзем тлумачыць, каб людзі разумелі, што ў нас фактычна выбараў няма, і ісьці на іх — гэта несусьветнае глупства", — упэўнены Ян Дзяржаўцаў.

# Віцебская пракуратура вынесла папярэджаньне журналістцы Алене Сьцяпанавай



20 жніўня журналістка **Алена Сьцяпанава** наведала Віцебскую абласную пракуратуру, дзе пракурор **П. Зайцаў** яе "апытаў", а затым уручыў пісьмовае папярэджаньне за подпісам намесьніка пракурора вобласьці старшага дарадцы юстыцыі **Г. А. Каранько**. Паводле паперы, пракуратура падпільнавала журналістку на "неаднаразовым ажыцьцяўленьні падрыхтоўкі аўдыё- і відэаматэрыялаў, а таксама інтэрвіюяваньні несельніцтва з мэтай падрыхтоўкі рэпартажаў, якія разьмяшчаліся ад імя замежнага СМІ - чэскай рэдакцыі Радыё Свабодная Эўропа-Радыё Свабода на адпаведным інтэрнэт-сайце".

Хто праводзіў гэтую праверку і якім чынам здабываліся зьвесткі, пракурор Зайцаў тлумачыць журналістцы не пажадаў, заявіўшы, што гэта інфармацыя ўнутранага карыстаньня. Адзіным матэрыялам, раздрукоўку якога ён паказаў спн. Сьцяпанавай, было апытаньне 2008 году, дзе яна як незалежная журналістка дзялілася ўласным меркаваньнем з калегамі на нейкую тэму. "Ён сказаў, што гэта зьяўляецца доказам супрацы з замежным СМІ", - распавяла Алена прэс-службе ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў".

Алена Сьцяпанава зьбіраецца абскарджваць афіцыйнае папярэджаньне найбліжэйшым часам. "Чэская служба Радыё Свабода, наколькі мне вядома, спыніла працу ў 2002 годзе. Таму я фізычна не магу зь ёй супрацоўнічаць", - кажа яна. Алена стала 11-й па ліку журналісткай, якую афіцыйна папярэдзілі органы пракуратуры ў 2012 годзе. Толькі ў жніўні папярэджаных ужо трое - да Сьцяпанавай гэта былі **Таццяна Белашова** і **Генадзь Барбарыч.**

# Акруговыя выбарчыя камісіі Віцебску адмовілі ў рэгістрацыі ў якасьці кандыдатаў чатыром прэтэндэнтам на ўдзел у выбарах




Найбольш патэнцыйных кандыдатаў “адсеяла" выбарчая камісія *Віцебскай-Кастрычніцкай выбарчай акругі № 20.* Тут зарэгістравалі толькі 4 прэтэндэнтаў з 7, у тым ліку трох партыйных вылучэнцаў: ад партыі левых “Справядлівы сьвет" - **Аляксандара Вінаградава**, **Аляксандра Дзядзінкіна** - ад КПБ, **Андрэя Рэзьнічэнку** - ад АГП. Не зарэгістравалі актывіста кампаніі “Гавары праўду" **Сяргея Парсюкевіча** і **Ўладзімера Правальскага**, у якіх выявілі недакладнасьці ў пададзеных на праверку подпісах, а таксама **Сяргея Рогалева**, вылучэнца ад ЛДПБ, — у сувязі зь несапраўднымі дадзенымі ў дэклярацыі пра прыбыткі і маёмасьць. Сяргей Парсюкевіч і Ўладзімер Правальскі зьвярнуліся са скаргамі ў ЦВК.

Актывіст кампаніі “Гавары праўду" Сяргей Парсюкевіч лічыць, што яго не зарэгістравалі знарок: “Я зразумеў, што будуць праблемы, калі мяне не паклікалі на папярэдняе паседжаньне камісіі, дзе вырашалася пытаньне, каб наладзіць дадатковую праверку здадзеных мной подпісаў. Паводле вынікаў абедзьвюх праверак, у падпісных аркушах нібыта знайшлі шмат недакладнасьцяў, і таму подпісы прызналі несапраўднымі. Буду гэта аспрэчваць, бо подпісы сапраўдныя, дый ніхто зь людзей падчас праверак ад подпісаў не адмовіўся. Нейкія хібы знайшла пашпартная служба — гэта памылкі ў імёнах, адрэсах і гэтак далей. Я магу сабе ўявіць, як гэта бывае: нехта з камісіі ня так прачытаў прозьвішча і ў сьпісе для праверкі напісаў, скажам, “Іваноў" замест “Іванцоў". Тое самае зь лічбамі — у кожнага ж розны почырк... Але магу пра ўсё гэта толькі меркаваць, бо мне не паказалі тыя аркушы, дзе знайшлі памылкі, як я ні прасіў!"

Удзельнік мінулай прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі Ўладзімер Правальскі заявіў у ЦВК, што акруговая камісія парушыла выбарчае заканадаўства: “У рашэньні камісіі напісана, што я здаў 1 024 подпісы, гэта яны самі прызнаюць. Пасьля праверкі яны нібыта знайшлі 32 несапраўдныя подпісы. Гэта 16% ад колькасьці правераных, і таму камісія мусіла праводзіць дадатковую праверку. Аднак пра гэта ў рашэньні, дзе мне адмовілі ў рэгістрацыі, нічога не сказана. Яны зрабілі так: аднялі 32 ад 1 024, атрымалі 992 подпісы і запісалі, што мяне не падтрымала неабходная паводле заканадаўства тысяча грамадзян. Такога ў выбарчым заканадаўстве няма, каб штосьці ад чагосьці адымаць. Гэта абсурд — адмаўляць на такіх падставах!"

Выбарчая камісія *Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акругі № 18* зарэгістравала кандыдатамі **Аляксея Гаўруцікава** з “Народнай Грамады", актывіста кампаніі “Гавары праўду" **Аляксандра Мікуліна**, сябра ЛДПБ **Анатоля Раўнейку** і беспартыйнага настаўніка **Міхаіла Волкава**. Адмоўлена ў рэгістрацыі прадстаўніцы АГП **Ірыне Яскевіч** — камісія знайшла недакладнасьці ў дэклярацыі аб прыбытках і маёмасьці.

У *Віцебскай-Чыгуначнай акрузе № 19* зарэгістравалі ўсіх чатырох ахвотных стаць кандыдатамі ў дэпутаты парлямэнту. Гэта намесьнік начальніка Віцебскага аддзяленьня чыгункі **Сяргей Бохан** і тры партыйныя вылучэнцы: ад Партыі левых “Справядлівы сьвет" зарэгістравалі **Вадзіма Кузьміна**, ад Партыі БНФ - **Кастуся Смолікава** і ад ЛДПБ - **Дзьмітрыя Шчаглова**.

Па *Віцебскай-Горкаўскай выбарчай акрузе № 17* таксама будуць балятавацца ўсе чацьвёра ахвотных: дзейны дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Генадзь Грыцкевіч**, **Алена Фаміна**, прыхільніца “Народнай Грамады" Мікалая Статкевіча, сябра партыі БНФ **Аляксандар Кузьняцоў** і старшыня віцебскай абласной арганізацыі ЛДПБ **Сяргей Ярмыкін**.

Зарэгістравалі кандыдатамі ўсіх прэтэндэнтаў на ўдзел у выбарчай гонцы і ў *Віцебскай сельскай акрузе № 21.* Тут сярод кандыдатаў у дэпутаты дырэктар кадэцкай вучэльні **Ўладзімер Шыцько** і двое партыйцаў: старшыня Гарадоцкай раённай суполкі партыі БНФ **Леанід Аўтухоў** і сябра ЛДПБ **Ігар Цеплякоў**.

# Павал Севярынец: Прысуд Дашкевічу - гэта прысуд усім нам

Сустаршыня "Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі", палітвязень *Павал Севярынец* пракамэнтаваў новы прысуд лідэру "Маладога Фронту" *Зьмітру Дашкевічу* (дадатковы год турмы): "**Судзілішча над Дашкевічам — вельмі сур'ёзная рэч.** Па-першае, цяпер паняцьце 'дасядзець да званка' для палітвязьняў адмяняецца. Колькі будзе рэжым — столькі будуць і палітвязьні. І, магчыма, некаторым давядзецца адбыць у турме столькі ж, колькі ва ўладзе будзе Лукашэнка. Такім чынам, гэта сыгнал і прысуд усім вязьням сумленьня".



Павал Севярынец і Зьміцер Дашкевіч

"Па-другое, **гэта прысуд нам як грамадзтву. Малады нацыянальны лідэр, сучасны Каліноўскі, вернік-хрысьціянін Зьміцер Дашкевіч ахвяруецца за ўсіх і ідзе на крыж у турме, а на волі - цішыня ды 'кампанія выбараў'. А патрэбныя нашая агульная малітва і агульнанацыянальныя акцыі салідарнасьці.** Заклікаю тэрмінова правесьці Нацыянальны круглы стол у справе Дашкевіча і 411 артыкулу. Свабоду Дашкевічу! Свабоду Беларусі!" - заявіў Павал Севярынец.

# У Віцебску затрымалі распаўсюдніка ўлётак з заклікам байкатаваць выбары

Віцебскі сябра КХП БНФ Пётар Сарапеня распаўсюджваў на Полацкім кірмашы ўлёткі *«Ня будзь скотам»*, дзе гаварылася пра байкот будучых парлямэнцкіх выбараў. 100 улётак у яго забралі міліцыянты ў Чыгуначным РАУС.




Пятро Сарапеня

Паводле спадара Сарапені, яго затрымалі АМАПаўцы, забраўшы ўлёткі ў кагосьці зь мінакоў:

**«Я, вядома, улётак ім не даваў. Аднак я не адмаўляў, што раздаваў такія ўлёткі. Мяне завезьлі ў Чыгуначны РАУС, там былі ўжо пачалі складаць пратакол. Але прыйшоў нехта з начальства, і ў мяне проста ўзялі тлумачэньні. Міліцыянты запісалі, нібыта я раздаваў улёткі, „дзе адлюстроўвалася апазыцыя супраць беларускай улады". Але я дапісаў сваёй рукой, што гэта ўлёткі „супраць антыбеларускай улады", бо ў Беларусі зьневажаецца родная мова і забараняецца агітацыя за байкот выбараў, якія КХП БНФ лічыць фарсам».**

Міліцыянты забралі ў Пятра Сарапені ўсе ўлёткі, іх аказалася роўна 100. Абяцалі аддаць праз тыдзень. На думку актывіста, супрацоўнікі міліцыі будуць высьвятляць, дзе такія ўлёткі друкуюць і хто аддаў загад іх распаўсюджваць.

# У Віцебску затрымалі журналістаў тэлеканалу БелСат




**Вольгу Старасьціну** і **Дзяніса Міхайлава** пратрымалі некалькі гадзінаў у Чыгуначным РАУСе Віцебску. Іх затрымала міліцыя падчас выкананьня прафэсійных абавязкаў. Яны рыхтавалі матэрыял, прысьвечаны парлямэнцкім выбарам. Журналістаў некалькі гадзінаў пратрымалі ў Чыгуначным РАУСе Віцебску. З Вольгай Старасьцінай правялі прафіляктычную размову аб забароне здымкаў у цэнтры гораду.

На вядоўцу «Аб'ектыву» і незалежнага журналіста склалі пратакол за "працу без акрэдытацыі на замежнае СМІ". *"Я лічу гэта спробай запужваньня. Відавочна, што яны стараюцца перашкодзіць незалежным журналістам у асьвятленьні гэтай тэмы"*. - заявіла Вольга Старасьціна.

# У кандыдата ў дэпутаты канфіскавалі друкаваную прадукцыю ды пагражалі прыцягнуць да адказнасьці за "супраціў міліцыі"



**31 жніўня кандыдат у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акрузе № 18 Аляксей Гаўруцікаў накіраваў скаргу пракурору Першамайскага раёну Віцебску на дзеяньні супрацоўнікаў міліцыі і ДПС. Кандыдата ў дэпутаты затрымалі больш як на тры гадзіны, надглядзелі рэчы дачкі і канфіскавалі выбарчыя матэрыялы.** Кандыдат патрабуе прыцягнуць вінаватых да крымінальнай адказнасьці. Як разьвіваліся падзеі 30 жніўня на дарозе Віцебск-Менск Аляксей Гаўруцікаў выклаў у сваёй скарзе:

«30.08.2012 г. я папрасіў сябра Самуйлава Аляксандра Эдуардавіча адвезьці мяне ў Менск на яго асабістым аўтамабілі дзеля таго, каб здаць дакумэнты з маёй праграмай кандыдата ў газэту "Рэспубліка" і на зваротным шляху забраць рэчы дачкі Алісы, якая сёлета скончыла Белдзяржунівэрсытэт па спэцыяльнасьці "міжнародныя адносіны, рэфэрэнт-перакладчык". Пасьля здачы дакумэнтаў у газэту "Рэспубліка" я заехаў да дачкі, забраў ейныя рэчы і заехаў на офіс грамадзкай арганізацыі "Рух За свабоду", дзе сустрэўся з маёй даверанай асобай Аляксандрам Мілінкевічам, зь якім абмеркавалі ягоны ўдзел у тэледэбатах на Віцебскім тэлебачаньні як майго прадстаўніка кандыдата ў дэпутаты. Пасьля гэтага мы рушылі ў Віцебск.

На пад'езьдзе да Віцебску на хвост нашай машыны села машына з супрацоўнікамі ДПС (маёр Валько Генадзь Аляксандравіч, старшы лейтэнант Халадноў Дзьмітры Сьвятаслававіч, шараговец Захаронак Вадзім Валер'евіч), якая суправаджала нас да гораду, і ўжо ў раёне Лучосы каля кавярні "Талыш" нас абагналі і спынілі машыну. Усю дарогу мы ехалі з уключанымі фарамі. Я яшчэ спытаў у сябра, навошта днём сьвятло, а ён адказаў: быў у адпачынку ў Летуве нядаўна на машыне, і там усе, паводле іхных правілаў, езьдзяць днём са сьвятлом, дык ён прызвычаіўся ўключаць сьвятло, бо лічыць, што так езьдзіць больш бясьпечна.

Калі машыну спыніў ст. л-т Халадноў Д. С. а 19:50, дык пры адчыненьні дзьверцы машыны з боку кіроўцы спрацавала сыгналізацыя машыны, якая спрацавала на тое, што ўключаныя габарыты і сьвятло. Ст. л-т Халадноў Д. С. зьвярнуў увагу кіроўцы на уключанае сьвятло фар, на што Самуйлаў А. Э. распавёў яму пра паездку ў Летуву і звычку езьдзіць з уключаным сьвятлом. Ст. л-т Халадноў Д. С. заявіў, што ў машыне могуць знаходзіцца выкрадзеныя рэчы, і запатрабаваў адчыніць багажнік і паказаць яго зьмесьціва. Убачыўшы поўны багажнік з рэчамі, пакладзенымі ў торбы і мяшкі, ён запатрабаваў у кіроўцы адчыніць торбы і палез у іх рукамі абмацваць рэчы. Я як гаспадар маёмасьці, што перавозіцца ў машыне, заявіў, што я супраць надгляду і перагрусу маіх торбаў бяз санкцыі пракурора, але гэта не спыніла ст. л-та Халаднова Д. С., які растлумачыў, што пасьля тэракту па ўказаньні кіраўніка дзяржавы яны маюць права надглядаць асабістыя аўтамабілі грамадзян бяз санкцыі пракурора.

Пасьля праверкі ўсіх торбаў у багажніку ст. л-т Халадноў Д. С. запатрабаваў у кіроўцы адчыніць салён машыны і паказаць зьмесьціва мяшка, які там знаходзіўся. Я заявіў, што гэта маёмасьць маёй дачкі і я супраць капаньня ў маіх рэчах, на што ст. л-т Халадноў Д. С. заявіў, што яны шукаюць скрадзеныя рэчы, і працягнуў агляд, прымусіўшы кіроўцу дастаць зь мяшка скрынкі з абуткам і адчыніць кожную зь іх. Пасьля маёй заявы, што ён парушае працэдуру дагляду аўтамабіля, ст. л-т Халадноў Д. С. даў распараджэньне інспэктару ДПС Захаронку В. В. знайсьці панятых. Была спыненая машына, ды мужчыну і жанчыну папрасілі быць панятымі. Пасьля маёй заявы, што агляд машыны бяз санкцыі пракурора не законны, ст. л-т Халадноў Д. С. адпусьціў панятых і запатрабаваў ад нас ехаць ў Першамайскае РАУС г. Віцебску, дзе заявіў, што мы затрыманыя для праверкі аўтамабіля на прадмет наяўнасьці ў ім скрадзеных рэчаў.

У Першамайскім РАУС г. Віцебску я паказаў пашпарт і пасьведчаньне кандыдата ў дэпутаты ды зьвярнуўся да дзяжурнага старшыны Волкава і папрасіў растлумачыць прычыну нашага затрыманьня. Ён сказаў, што ня ведае, пакуль супрацоўнікі ДПС не аформяць рапарту, а ст. л-т Халадноў Д. С. растлумачыў, што нас падазраюць у перавозцы выкрадзеных рэчаў і маюць права затрымаць да 3-х гадзін. Супрацоўнікі ДПС склалі рапарт і адміністрацыйны пратакол на кіроўцу Самуйлава А. Э, адзначыўшы ў ім, што ён ехаў без уключаных фар у сьветлы час сутак у парушэньне распараджэньня міністра МУС № 73 ад 14.08.2012 г. і тым самым парушыў ч. 3 арт. 18.14 КаАП Рэспублікі Беларусь, і канфіскавалі талён, выдаўшы наўзамен часовы талён і позву з выклікам 01.09.2012 г. на адміністрацыйную камісію. Такім чынам, супрацоўнікі ДПС унесьлі ў адміністрацыйны пратакол загадзя фальшывую інфармацыю з мэтай прыцягнуць кіроўцу да адказнасьці за адміністрацыйнае правапарушэньне, якое ён не зьдзяйсьняў, і я быў гэтаму сьведкам.

А 21:44 да нас падыйшоў капітан Пятроўскі Артур Ігаравіч (ён быў бяз формы супрацоўніка міліцыі, бяз бэйджыку з пазначэньнем ягонага прозьвішча і званьня, таму яго дадзеныя запісаныя мною зь ягоных слоў) і паклікаў кіроўцу для агляду аўтамабіля, я таксама пайшоў зь імі. К-н Пятроўскі А. І. запрасіў панятых і пачаў дагляд аўтамабіля, пасьля майго патрабаваньня ён паказаў кіроўцу санкцыю пракурора на агляд аўтамабіля, а мне яе паказаць адмовіўся, заявіўшы, што я працэсуальна ня маю на гэта права. Я заявіў, што ў аўтамашыне мае рэчы, і я супраць іх агляду і капаньня ў іх. Калі я паспрабаваў забраць з машыны асабістую сумку з маімі дакумэнтамі, к-н Пятроўскі А. І. ў грубай форме забараніў мне гэта зрабіць, папярэдзіўшы, што арыштуе мяне за супраціў супрацоўніку міліцыі, ды загадаў супрацоўніку ДПС ахоўваць мяне і не даваць падыйсьці да машыны падчас яе агляду.

Перад пачаткам агляду аўтамабіля к-н Пятроўскі А. І. растлумачыў панятым правы і растлумачыў, што падчас агляду аўтамабіля будуць шукаць друкаваную прадукцыю без выходных дадзеных, выкрадзеныя рэчы і рэчы забароненыя. Усе торбы і мяшкі з аўтамабіля дасталі, зь іх вынялі іх зьмесьціва: вопратку, абутак, кнігі, слоўнікі зь японскай, ангельскай і нямецкай моў, касмэтыку, прадукты, дыскі і інш. дробязь. Пералік маёмасьці, якую я называю, пацьвярджае той факт, што я перавозіў маёмасьць дачкі зь Менску ў Віцебск пасьля 5 гадоў вучобы ва ўнівэрсытэце.

Аднак маразм з аглядам аўтамабіля працягваўся, і к-н Пятроўскі А. І. кожнага разу, калі бачыў кнігі ці іншую друкаваную прадукцыю або носьбіты інфармацыі, ён іх старанна правяраў, ці ёсьць на іх выходныя дадзеныя, пры гэтым кажучы: гэта да выбараў не датычыцца. Так, убачыўшы тэчку з падборкай законаў ЗША наконт выбараў, ён сказаў, што гэта матэрыялы пра выбары, але ў іншай краіне, таму канфіскоўвацца ня будуць.

У маёй асабістай сумцы была знойдзеная брашура Народнай праграмы, якую мне прэзэнтавалі яе аўтары і якую я падтрымліваю і паказваў тэлегледачам падчас свайго выступу 27.08.2012 г. як кандыдат у дэпутаты парлямэнту, і па рашэньні к-на Пятроўскага А. І. яна была канфіскаваная, бо ён ня ўбачыў у ёй выходных дадзеных, ды інфармацыі пра аўтараў і іх адрасоў яму было не дастаткова.

Апроч таго, у мяне ў сумцы знаходзілася тэчка з дакумэнтамі кандыдата па Віцебскай-Горкаўскай выбарчай акрузе № 17 Фаміной Алены Аляксандраўны і яе запісная кніжка з асабістымі тэлефонамі, з тэлефонамі ініцыятыўнай групы і памочнікаў на выбарах, і на рашэньне (папросту абсурднае) к-на Пятроўскага А. І. дакумэнты Фаміной А. А. і яе запісная кніжка былі канфіскаваныя.

Усе газэты, у якія быў загорнуты абутак дачкі, былі рупліва вывучаныя к-нам Пятроўскім А. І. на прадмет наяўнасьці выходных дадзеных, і ён вельмі ўважліва вывучыў газэту "Народная воля", якая была ў салёне машыны, але канфіскоўваць яе ня стаў. Улічваючы, што сярод рэчаў дачкі было 45 дыскаў зь песьнямі яе любімых аўтараў і кінафільмы, яны былі канфіскаваныя як носьбіты інфармацыі. Агляд аўтамабіля быў скончаны а 23:11, і толькі пасьля гэтага мяне зь сябрам адпусьцілі.

Такім чынам, па віне ст. л-та Халаднова Д. С. (супрацоўнік ДПС) я быў затрыманы 30.08.2012 г. на тэрмін больш за 3-х гадзіны, ён зрабіў першасны агляд маіх рэчаў у аўтамабілі бяз санкцыі пракурора, і пры гэтым я выслухаў ад яго неабгрунтаваныя (абразьлівыя) абвінавачаньні ў перавозе выкрадзеных рэчаў, і таму я лічу яго вінаватым у парушэньні маіх грамадзянскіх правоў на свабоду перамяшчэньня, патрабую прыцягненьня яго да дысцыплінарнай і адміністрацыйнай адказнасьці ў адпаведнасьці з заканадаўствам.

Дзеяньні к-на Пятроўскага А. І. я расцэньваю як палітычны вышук часоў 37 года XX стагодзьдзя, а канфіскацыю маіх рэчаў, рэчаў маёй дачкі і дакумэнтаў Фаміной А. А. неправамернымі, што перашкаджаюць майму праву быць абраным у парлямэнт краіны, патрабую іх неадкладнага вяртаньня, а к-на Пятроўскага А. І. прыцягнуць да дысцыплінарнай адказнасьці», - адзначыў А. Гаўруцікаў ў скарзе. Кандыдат у дэпутаты лічыць: «дзеяньні супрацоўнікаў ДПС, якія ўнесьлі ў адміністрацыйны пратакол загадзя фальшывую інфармацыю, патрабуюць ацэнкі з боку пракуратуры, і таму прашу разгледзець пытаньне аб прыцягненьні іх да крымінальнай адказнасьці».

# Праваабаронца Павал Левінаў праінфармаваў пракурораў аб Канвэнцыі супраць катаваньняў

**Віцебскі праваабаронца Павал Левінаў зладзіў кампанію па інфармаваньні ўсіх пракурораў Віцебскай вобласьці аб Канвэнцыі супраць катаваньняў ды іншых жорсткіх, бесчалавечных альбо прыніжаючых чалавечую годнасьць відаў абыходжаньня й пакараньня. За паўтара месяца ён сустрэўся з 25 пракурорамі, яшчэ двум адаслаў матэрыялы па пошце. Праваабаронца пакідаў пракурорам ў якасьці інфармацыйных матэрыялаў выніковыя заўвагі па Беларусі Камітэту ААН супраць катаваньняў, прынятыя на 47-й сэсіі Камітэту.**

У дакумэнце выказваецца занепакоенасьць у сувязі з парушэньнем правоў затрыманых, ужываньнем катаваньняў і жорсткага абыходжаньня, беспакаранасьцю і адсутнасьцю своечасовага і бесстароньняга расьсьледаваньня прымяненьня катаваньняў у Беларусі. Наша краіна зьяўляецца сябрам Канвэнцыі супраць катаваньняў і на 47-й сэсіі Камітэту ААН, якая адбылася летась, прадстаўляла даклад. Праўда, зроблены ён быў з 9-гадовым спазненьнем. На той жа сэсіі быў агучаны альтэрнатыўны даклад беларускіх праваабаронцаў. Камітэт прапанаваў Рэспубліцы Беларусь зрабіць чарговую справаздачу аб сытуацыі з катаваньнямі ў краіне да 25 лістапада 2012 году.



«На вялікі жаль, пракуроры выявілі, я б сказаў, дрымучасьць у пытаньнях права, - распавёў Павал Левінаў журналістам на прэсканфэрэнцыі, прысьвечанай падвядзеньню вынікаў кампаніі. — Пракурор Расонскага раёну пасьля 30-хвілiннай размовы навогул не зразумеў мяне. Пракурор Полацку распавядаў пра тое, як пракуратура стаіць на варце абароны правоў грамадзян і як пракуроры нядаўна абаранілі права грамадзяніна... на ваду, пасля таго як яму яе адключылі. А пракурор Віцебскага раёну падчас сустрэчы не прамовіў ані слова...» **Толькі адзін з 27 пракурораў, паводле слоў Левінава, быў, што называецца, у тэме — гэта выконваючая абавязкі пракурора Сеньненскага раёну.**

Асноўная рэакцыя пракурораў на праблему, якую спрабаваў данесьці праваабаронца, была такая: у нас у раёне такога няма. Чаму не? Таму што няма зваротаў грамадзян... «Я спрабаваў растлумачыць: тое, што няма зваротаў, і тое, што вам невядомыя факты, гэта ня значыць, што іх няма. Людзі баяцца скардзіцца на праваахоўныя органы. Баяцца помсты. А іншыя — проста ня ведаюць пра тое, што маюць такое права, і не разумеюць, што яно парушанае», — распавёў праваабаронца.

Апошнім этапам у гэтым «хаджэньні па пракурорах» было наведваньне праваабаронцам 4 верасьня пракурора Віцебскай вобласьці Генадзя Дыско. Гутарка з Дыско доўжылася каля 40 хвілін і нават аднойчы перарасла ў дыскусію. «Я ішоў на сустрэчу з надзеяй, але **высьветлілася, што і пракурор вобласьці разважае гэтаксама, як і яго падначаленыя. Ён кажа аб заканадаўстве РБ і не разумее, што такое права. Я спрабаваў растлумачыць, што міжнародныя дамовы, якія ратыфікаваныя Рэспублікай Беларусь, зьяўляюцца нормай дзеючага заканадаўства. Але аказваецца, у нас для пракурорскіх работнікаў усё, што ніжэй за Канстытуцыю, выконваецца, а Канстытуцыя і Міжнародныя дамовы – гэта нешта такое аморфнае...**» — падзяліўся ўражаньнямі Левінаў.

Ён паказваў абласному пракурору публікацыі СМІ пра факты парушэньняў Канвэнцыі ААН аб катаваньнях. У прыватнасьці, пра тое, як у 2009 годзе супрацоўнікі Першамайскага РАУС катавалі непаўналетніх хлапчукоў, абвінавачаных у забойстве (паводле іх прызнаньняў у судзе, ім засоўвалі ў раты пісталеты) і апраўданых ў 2011 годзе. Дарэчы, пракурорская праверка па факце прымяненьня недазволеных мэтадаў супрацоўнікамі РАУС зацягнулася ўжо больш як на год.

Левінаў нагадаў Дыско пра гучную справу лекара Дробыша: міліцыянты-каты апынуліся-такі за кратамі, але ілжэсьведкі дагэтуль на свабодзе. Праваабаронца нагадаў таксама пракурору аб звароце ў абласную пракуратуру віцебскай актывісткі Алены Семенчуковай, у якім яна паказвала на факты прымяненьня да яе катаваньняў і бесчалавечнага абыходжаньня ў віцебскім ІЧУ. Зварот у выніку спусьцілі да начальніка УУС... У канцы гутаркі Левінаў выказаў надзею, што пракуратура вобласьці здольная арганізаваць належны кантроль за выкананьнем правоў чалавека ў гэтай галіне.

«Магчыма, уся гэтая інфармацыя прымусіць іх задумацца над гэтай праблемай і прымусіць прымаць-ткі меры», — падсумаваў праваабаронца, паабяцаўшы ў будучыні «данесьці гэтую інфармацыю вось такім жа чынам да кожнага пракурора краіны». Паводле словаў Паўла Левінава, Беларусь — адзіная краіна ў сьвеце, дзе не прадугледжаная адказнасьць за прымяненьне катаваньняў і бесчалавечнага абыходжаньня з боку праваахоўных органаў.

## Зь Сяргея Каваленкі выбіваюць прызнаньне ў нападзе на міліцыянта




Сяргей Каваленка паведаміў у лісьце да жонкі, што пасьля таго, як ён напісаў прашэньне аб памілаваньні, да яго зноў прыяжджалі з пракуратуры і дамагаліся, каб ён прызнаў сябе вінаватым і ў нападзе на міліцыянта. «Сяргей адмовіўся. Ён працягвае настойваць на тым, што гэта яго зьбілі міліцыянты, калі ён зьлез з навагодняй ёлкі пасьля вывешваньня бел-чырвона-белага сьцягу. А тое, што нібыта ад Сяргея пацярпеў міліцыянт, — хлусьня», — распавяла жонка палітвязьня Алена Каваленка.

У ліпені стала вядома, што месяцам раней Сяргей Каваленка падпісаў прашэньне аб памілаваньні на імя Аляксандра Лукашэнкі. Паводле вязьня, гэта адбылося пасьля шматлікіх размоваў з супрацоўнікамі адміністрацыі і ціску, які выявіўся ў прычэпках і спагнаньнях, у тым ліку ў пакараньні карцэрам. «У прашэньні Сяргей выклаў толькі просьбу яго памілаваць, больш нічога. Відаць, такі тэкст некага наверсе не задаволіў, і ад яго сталі патрабаваць прызнаньня віны. А калі Сяргей адмовіўся, зноў кінулі ў карцэр», — кажа Алена Каваленка.

Актывіст Сяргей Каваленка адбывае год і месяц зьняволеньня за парушэньне правілаў адбыцця «хатняй хіміі», якую атрымаў пасьля вывешваньня нацыянальнага сьцягу на навагодняй ёлцы ў Віцебску ў 2010 годзе. Трымаюць палітвязьня ў Магілёўскай калёніі.

# У Віцебску не паказалі тэледэбаты з удзелам старшыні партыі БНФ



**Аляксей Янукевіч** браў удзел у спрэчках у якасьці даверанай асобы старшыні гарадзкой суполкі партыі БНФ **Аляксандра Кузьняцова**, кандыдата па Віцебскай-Горкаўскай акрузе № 17. Запіс тэледэбатаў праводзіўся на тэлерадыёкампаніі «Віцебск» 4 верасьня. А 5 верасьня Лідзія Ярмошына агучыла рашэньне, што тыя давераныя асобы, якія самі балятуюцца ў іншых акругах, ня могуць выступаць па радыё і тэлевізіі за кагосьці іншага.

А 19:00 былі праанансаваныя дэбаты кандыдатаў па Віцебскай-Чкалаўскай выбарчай акрузе № 18, а ў 19:30 — па Віцебскай-Горкаўскай № 17. Аднак першыя паўгадзіны па тэлевізары ішла праграма «Кошт перамогі», прысьвечаная ўспамінам пра Вялікую айчынную вайну. Потым пачалася трансьляцыя дэбатаў кандыдатаў па 18-й акрузе. Пра тое, што дэбаты іншых кандыдатаў у этэр ня выйдуць, нікога не папярэдзілі.

Аляксандар Кузьняцоў: *«Толькі ў 19:40 мне патэлефанавалі з камісіі і папярэдзілі, што дэбаты не пакажуць. А дагэтуль я марна чакаў каля тэлевізара паўгадзіны. Так, за мяне браў удзел у дэбатах Аляксей Янукевіч, лідэр нашай партыі. Але гэта было ўчора. І толькі сеньня Цэнтравыбаркамам былі абвешчаныя новыя „правілы гульні". Прадстаўніца камісіі сказала, што атрымалі з ЦВК тэлеграму, каб не паказвалі нашы дэбаты. Атрымліваецца, мы змарнавалі час і міжволі падманулі нашых выбаршчыкаў. Нам паведамілі, што мы маем магчымасьць перазапісаць дэбаты 7 верасьня».*

У тэледэбатах таксама бралі ўдзел незалежная кандыдатка **Алена Фаміна**, прыхільніца Мікалая Статкевіча, і **Аляксандар Грыцкевіч**, дзейны дэпутат Палаты прадстаўнікоў.

# На Барыса Хамайду склалі пратакол за «хуліганку»




**6 верасьня на віцебскага апазыцыянэра Барыса Хамайду, які на рагу "сіняга дому" на вуліцы Леніна ў Віцебску распаўсюджваў незалежную прэсу, быў складзены адміністрацыйны пратакол. Хамайду абвінавацілі ў тым, што ён парушыў грамадзкі парадак, схапіўшы за руку загадчыцу прадуктовай крамы "Веста".**

Ужо з самага ранку да Хамайды падыйшлі два міліцыянты і патрабавалі, каб той сышоў. Супрацоўнікі міліцыі доўга некуды тэлефанавалі, а потым проста выпісвалі кругі вакол дому. Хамайда мяркуе — чакалі машыны. Але праз некаторы час да Барыса Хамайды падыйшла ўжо загадчыца прадуктовай крамы "Веста", якая месьціцца ў "сінім доме".

"Жанчына пачала патрабаваць, каб я сышоў, бо, маўляў, на гэтым самым месцы яна зьбіраецца разгортваць гандаль. Я кажу: дык тут жа побач сьметніца — які гандаль? І чаго з самай раніцы сталы не паставілі, калі хацелі тут гандляваць? Прапанаваў ёй: я пасунуся трошкі, а вы стаўце, што пажадаеце. А яна мне: не, вы сыходзьце зусім. І я зразумеў, што ёй загадалі і што гэта правакацыя. І адказваю, што нікуды не сыду. Тады яна паспрабавала сарваць бел-чырвона-белую стужку. І я машынальна адкінуў ейную руку. А яна усчала гвалт: "Што вы б'яцеся, мяне муж дома ніколі ня б'е, я напішу зараз на вас заяву!" І выклікала міліцыю", — распавёў Барыс Хамайда.

Стол на загад кіраўнічкі "Весты" ўсё ж вынесьлі і паставілі перад складным столікам Хамайды. "Засланіла мяне гэтым сталом і лаўкамі, палову тратуару загрувасьціла. Так і сядзеў, пакуль час мой не сышоў. За гэтым жа сталом і пратакол складалі. А людзі ідуць і кажуць: ну, малайчына, ты так добра зрабіў, што стол паставіў, зараз да цябе і прысесьці можна, і пляшку прынесьці..." — жартуе Хамайда.

**Паводле пратаколу, Хамайда махаў рукамі, хапаў за руку загадчыцу магазіну і гэтым парушаў грамадзкі парадак. "Цырк! Цікава, што будзе заўтра. Я хачу паглядзець, ці будзе там гэты стол стаяць, бо на гэтым месцы аніколі не гандлявалі. Гэта проста ёй далі загад, каб яна справакавала канфлікт. Яны думалі, што я буду біцца з жанчынай. Але ў мяне ня тое выхаваньне. Цяпер во буду чакаць позву на суд", — кажа Хамайда.**

# Стваральніка інтэрнэт-суполкі "Надоел нам этот Лукашенко" дапыталі ў КДБ

**Раніцай 30 жніўня ў г. Віцебску быў затрыманы Алег Шрамук, стваральнік суполкі «Надоел нам этот Лукашенко» ў сацыяльнай сетцы Вконтакте. Сябры і сваякі Алега зьвязваюць затрыманьне зь яго актыўнай грамадзянскай пазыцыяй і стварэньнем ім інтэрнэт-суполкі, якая налічвала каля 40 тысяч падпісчыкаў. Напярэдадні «Надоел нам этот Лукашенко» была ўзламаная, рахунак Алега быў актыўны, і ішло актыўнае выдаленьне інфармацыі з суполак і са старонкі Алега.**



Каля 11 раніцы ў кватэры, у якой пражываюць Алег з жонкай, пачуўся званок. Тое, што адбывалася далей, апісвае жонка Алега Алеся:

— У раёне 11 гадзін раніцы званок у дзьверы, гляджу ў вочка, стаіць жанчына. Адчыняю дзьверы, не пасьпяваю сьцяміць - дзьверы насросхрыст, урываецца АМАП і чалавек у цывільным. З крыкам: "Дзе гаспадар?", пачынаюць гойсаць па пакоях і шукаць Алега. На мой адказ, што гаспадара няма, ніхто не рэагаваў. Імя і прозьвішча таго, каго яны хацелі бачыць, ніхто не назваў. І толькі потым я зразумела, што яны хацелі бачыць майго мужа (у кватэры пражываем ня мы адны, і ёсьць яшчэ бацькі - добра што іх не было дома!). Людзі ў форме і без спрабавалі забраць адзін з ноўтбукаў. Абыйшлі ўсе пакоі і ўбачылі, што Алег дома (ён спаў), ды пачалося: "Вазьміце асабістыя рэчы, і пройдзем". На пытаньне, зь якой нагоды, быў адказ: "Павязу ў Кастрычніцкі РАУС", і павезьлі.

Я, ня ведаючы, што мне рабіць, вырашыла выйсьці на двор падыхаць сьвежым паветрам. Адыйшла на 10 мэтраў ад дому, пад'яжджае легкавы аўтамабіль, выходзяць двое велізарных мужчын, клічуць мяне. Я, не азіраючыся, іду далей, мяне даганяюць, хапаюць за руку і загадным тонам камандуюць: "Прайдзёмце". Я адмовілася, але гэта не дапамагло, мяне запхнулі ў машыну і адвезьлі ў Чыгуначны РАУС без усялякіх тлумачэньняў, дзе я прабыла чатыры гадзіны на допыце.

Седзячы ў машыне, я, як кожны нармальны чалавек, цікавілася, за што мяне навогул забралі невядома куды - адказу так і не атрымала. Прывезьлі ў Чыгуначны РАУС, як небясьпечную злачынцу, пад канвоем. У РАУС папрасілі аддаць усе рэчы, якія былі з сабой, і завялі ў габінэт да сьледчага (гэта я толькі потым зразумела). На маё пытаньне, за што мяне сярод белага дня пасадзілі ў машыну і павезьлі, сьледчы адказаў, што на мяне суседзі напісалі скаргі наконт таго, што я прадаю сьпіртныя напоі дома, пры гэтым ён паказаў мне гэтую заяву!

Далей ён цікавіўся тым, як жыве мой муж, дзе працуе, чым займаецца, у колькі з дому сыходзіць, у колькі прыходзіць - увогуле, усім пра ягонае жыцьцё. Пра заяву на мяне так ніхто больш і не прыгадаў. Усе пытаньні былі толькі пра майго мужа. Не пачуўшы таго, што яму, відавочна, было трэба (на цяперашні момант усе выдатна разумеюць, пра што вядзецца гаворка), ён выйшаў і паклікаў, відаць, свайго начальніка, які, прачытаўшы мае паказаньні, папрасіў прабачэньня і сказаў адпусьціць мяне. Сьледчы вырашыў мяне праводзіць, каб пазьбегнуць якіх-небудзь непрыемнасьцяў для мяне ж самой. **Было страшна, што пад'едзе яшчэ якая-небудзь машына, і зноў нешта адбудзецца.** Я адразу патэлефанавала мужу - тэлефон недасяжны. Я зьвязалася зь сябрамі - ніхто ня ведае, дзе ён, і ўсе турбуюцца».

Праз некалькі гадзін, не атрымліваючы ніякіх вестак ад Алега, занепакоены сябар Алега Дзьмітры накіраваўся ў Кастрычніцкі РАУС, каб даведацца дзе знаходзіцца Алег, і на якой падставе ён затрыманы. Супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС доўга распавядалі Дзьмітрыю пра тое, што яны ўпершыню чуюць прозьвішча Шрамук, і чалавек з такім прозьвішчам да іх ніколі не дастаўляўся. Аднак, калі Дзьмітры вырашыў пакінуць у РАУС заяву аб згубе чалавека, супрацоўнікі адразу ж прыгадалі пра Алега Шрамука, якога дастаўлялі да іх у гэты дзень раніцай.

Паводле словаў супрацоўнікаў РАУС, Алег Шрамук быў затрыманы за датычнасьць да нейкіх раскопак, у выніку якіх Алег нібыта знайшоў нейкія патроны. Доказам датычнасьці Алега да раскопак паслужыла фатаграфія патронаў, якую Алег нібыта разьмяшчаў на сваёй старонцы Вконтакте. Дзьмітрыя апыталі наконт веданьня пра ўдзел Алега ў раскопках і дактыляскапавалі. Яму таксама паведамілі, што Алег Шрамук прабыў у РАУС каля дзьвюх гадзін, апытаны і ўжо даўно адпушчаны. Аднак, да 15:00 Алег ні з кім са сваякоў і сяброў на сувязь так і ня выйшаў.

**Насьцярожвала тое, што літаральна за сьцяной Кастрычніцкага РАУС г. Віцебску знаходзіцца Ўпраўленьне КДБ па Віцебскай вобласьці. Улічваючы тое, што ў Менску ў гэты дзень праходзілі затрыманьні адміністратараў іншых суполак у сацыяльных сетках, былі ўсе падставы меркаваць, што да зьнікненьня Алега датычныя супрацоўнікі КДБ. Аднак ніякай інфармацыі пра Алега ў гэтым ведамстве не давалі. Каля 24:00 гадзін Алег быў адпушчаны з УКДБ па Віцебскай вобласьці, дзе ён, як і меркавалі яго блізкія, знаходзіўся ўвесь гэты час.**

Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.